

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# НАША СЛОВА.pdf



**Чацвёрты год выдання** **№ 18 (174) 30 красавіка 2025 г.**

## У Ватыкане адбыліся развітальная Імша і пахаванне Папы Францішка

26 красавіка на ватыканскай плошчы Святога Пятра адбылося развітанне з Папам Францішкам, пасля чаго цела Пантыфіка было перавезена ў Базыліку Санта-Марыя-Маджорэ - месца яго вечнага спачыну.






Пахавальная святая Імша распачалася ў 10.00 па цэнтральнаеўрапейскім часе (11.00 па менскім часе). Яна стала першай з дзевяці эўхарыстычных цэлебрацый, якія будуць праходзіць на працягу бліжэйшых дзевяці дзён жалобы і малітвы пасля смерці Святога Айца.

*(Заканчэнне на ст. 2.)*

# РАДУНІЦА



Пасля Вялікадня беларусы ўшаноўваюць продкаў.

Наведванне могілак праваслаўнымі беларусамі адбываецца на Радуніцу, на 9-ты дзень пасля Вялікадня. Сёлета гэта было 29 красавіка.

Сам назоў Радуніца (Радаўніца, Раданіца) вельмі архаічны. Няма адзінага меркавання пра яго паходжанне. Здавалася б, значэнне слова ляжыць на паверхні.

Так, доўгі час яго этымалогію выводзілі ад "радавацца" або "род". "Род" - ясна, чаму. На карысць "радаснай" тэорыі сведчыла тое, што ў хрысціянскі час Радуніца стала "Вялікаднем памерлых": святам, прасякнутым надзеяй на ўваскрашэнне і вечнае жыццё.

Дзяржаўным выходным днём Радуніца стала пасля сканчэння савецкай улады, у 1991-м. У Расіі, Польшчы і Украіне гэты дзень працоўны.

На могілках прыбіраюцца загадзя, перад днём памінання, калі павінна быць ужо чыста.

Штогод могілкі перад Радуніцай і на яе наведваюць мільёны людзей.





# У Ватыкане адбылася развітальная Імша і пахаванне Папы Францішка

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

Літургію, якая праходзіла на лацінскай мове, узначальваў 91-гадовы італьянскі кардынал Джавані Батыста Рэ, дэкан Калегіі кардыналаў. Разам з ім маліліся каля 5 тысяч канцэлебрантаў - кардыналаў, біскупаў і святароў. Беларускі епіскапат на пахаванні Папы Францішка прадстаўлялі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі, Мітрапаліт Менска-Магілёўскі, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, і біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, Генеральны вікарый Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі.








На пахавальнай Імшы прысутнічалі каля 160 афіцыйных дэлегацый з розных краін свету. Сярод іх была таксама афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Ігара Сергяенкі.



Пасля заканчэння літургіі і абрадаў апошняга развітання труна з целам Святога Айца пад гукі магутных званоў была ўнесена ў Базыліку Святога Пятра. Затым, пакладзеная на белы папамабіль, яна назаўсёды пакінула Ватыкан і ў суправаджэнні паліцэйскага картэжу матацыклістаў на малой хуткасці адправілася ў свой апошні шлях.

Згодна з запаветам Пантыфіка, ён быў пахаваны ў Базыліцы Санта-Марыя-Маджорэ - галоўным марыйным храме Вечнага горада. Цырымонія тумуляцыі насіла прыватны характар і не транслявалася СМІ.

266-ы наступнік святога Пятра знайшоў спачын у простай магіле паміж Паўлінскай капліцай і капліцай Сфорца. Абрад праводзіў камерленга Святога Рымскага Касцёла, кардынал Кэвін Джозэф Фарэл.



Удзельнікі цырымоніі прасілі Бога прыняць душу Папы Францішка ў "жытло міру і святла" і дараваць яму "шчасце і супольнасць са святымі і выбранымі".

*Тэкст: **Аляксандр Панчанка**.*
*Паводле: Vatican News. Catholic.by.*





# Лепшы міратворчы праект Гарадзенскай вобласці

24 красавіка на базе сярэдняй школы №15 імя Д.М. Карбышава ў Гародні адбыўся абласны злёт юных міратворцаў Гарадзеншчыны, у рамках якога былі падведзены вынікі абласнога этапа рэспубліканскага конкурсу "Лепшы міратворчы праект Школ свету" на тэму "80 мірных гадоў".



У рамках мерапрыемства міратворцы сярэдняй школы № 11 г. Ліды прынялі ўдзел у мітынгу каля Мемарыяла воінам Беларускай пагранічнай акругі ў Гародні, дзе ўшанавалі памяць герояў хвілінай маўчання і ўсклалі кветкі да падножжа помніка героям-пагранічнікам. Таксама юныя міратворцы прынялі ўдзел у пасадцы бэзавай алеі на тэрыторыі школы і наведалі школьны музей Д.М. Карбышава.

Атрады міратворцаў, а ўсяго прымала ўдзел дзевяць каманд, прадставілі на суд журы візітныя карткі аб станаўленні і развіцці родных гарадоў, а таксама відэаролікі "80 мірных гадоў", прысвечаныя захаванню гістарычнай памяці і міратворчым ініцыятывам.







По выніках абласнога этапа атрад міратворцаў 11 лідскай школы ўганараваны дыпломам Пераможца конкурсу "Лепшы міратворчы праект Школ свету" на тэму "80 мірных гадоў". Віншуем нашых міратворцаў і педагогаў з высокай узнагародай.

***Наталля Мікалаеўна Анашкевіч,***
*кіраўнік школьнага прэс-цэнтра*
*"Вялікі перапынак",*
*г. Ліда, школа № 11.*





# "Дыктоўка Перамогі"

25 красавіка навучэнцы 9-11 класаў СШ №12 г. Ліды прынялі ўдзел у гістарычнай дыктоўцы на тэму падзей Вялікай Айчыннай вайны "Дыктоўка Перамогі". Гэтае мерапрыемства спрыяла не толькі праверцы гістарычнай пісьменнасці навучэнцаў, але і развіццю цікавасці да вывучэння гісторыі, захаванню гістарычнай памяці, фармаванню ў маладога пакалення беларусаў паважлівага стаўлення да ўдзельнікаў і падзей Вялікай Айчыннай вайны.







Уражаннямі пра ўдзел у мерапрыемстве дзеці падзяліліся з карэспандэнтамі Лідамедыякампаніі.

***ТК "Культура Лідчыны".***

# "Чырвоная зорка Героя"

Калектыў ААТ "Шклозавод "Нёман" у самыя кароткія тэрміны зрабіў восемдзесят крыштальных рубінавых зорак для абласнога праекта "Чырвоная зорка Героя"

Працэс нараджэння эксклюзіўных зорак быў імклівым. Форму распрацавалі і намалявалі галоўны мастак прадпрыемства Сяргей Шэцік і яго намесніца Яна Давыдава.





Па чарцяжах у ліцейна-механічным цэху вырабілі форму, і ўжо праз два дні брыгада Валерыя Багінскага эксперыментальна-мастацкага ўчастка прыступіла да адліву вырабаў у крышталі. Да ідэалу зоркі ўручную дапрацавалі майстры-алмазчыкі. А затым іх пафарбавалі ў высакародны чырвонага рубіну колер, абпалілі, адпалілі, спакавалі.

***ТК "Культура Лідчыны".***

Станіслаў Суднік

# БЕЛАРУСКАЯ МЕТАЛІНГВІСТЫКА

## Мур. Муляр

Пагаварыўшы пра горад і сядзібу трэба некалькі словаў сказаць пра тое, як яны будаваліся.

Пры разглядзе назваў будаўнічых прафесій неяк раптам заўважаеш іх беларускую асаблівасць і некаторую незразумеласць. Да прыкладу слова ***муляр***. Гэтым словам называецца не чалавек, які нешта малюе. Там ёсць словы ***маляр***. Гэтым словам называецца чалавек, які кладзе сцяну з цэглы. Ну, раней мог класці і з каменняў. Расейскае слова ***каменщчык*** у дадзеным выпадку, як быццам бы, пасуе болей. Нашы аматары, глыбокіх лінгвістычных даследванняў выводзяць гэтае слова ад польскага ***mularz*** (А.М. Балыка. " Слоўнік іншамоўных слоў").

Але шырокае распаўсюджванне гэтага слова, мноства прозвішчаў кшталту: *Муляр*, *Мулярчык* змушае засумнявацца у такой банальнай запазычаннасці. І зусім нескладаным напружаннем памяці згадваем, што палетувіску слова ***муляр*** гучыць, як ***мураль*** (***mural***). Там гэтае слова чужароднае, запазычанае. Адкуль? На перыяд фармавання летувіскай мовы і жамойты, і дзукі найбольш узаемадзейнічалі з намі. Таму слова магло быць запазычана толькі з Беларусі. Але гэта не так важна. Важна тое, што мы маем першапачатковае гучанне гэтага слова, якое ў працэссе змякчэння беларускай мовы крыху трансфармавалася. Першапачаткова слова ***муляр*** у беларускай мове гучала, як ***мураль***, чалавек, які ***муруе муры***. Вось зараз усё на сваім месцы.

*Мураль муруе мур. Мур, Мураванка, мураваны.*

Але цяпер мы павінны разглядзець ужо паходжанне слова ***мур***. Гняздо гэтага слова ўключае і назоўнікі, і дзеясловы, і прыметнікі, што выводзіць на думку пра яго глыбокую старажытнасць і самабытнасць. Слоўнікі гоняць нас да польскага ***mur***, ***murowac***, нямецкага ***mauren***, лацінскага ***murus***. Шырокае распаўсюджанне гэтага слова у іншых мовах тым не менш не дае ніякіх падставаў гаварыць, што мы ў кагосьці з іх гэтае слова запазычылі. Гэтае слова беларусы ведалі і ўжывалі з глыбокай даўніны, і таму няма ў беларускай мове да гэтага слова нейкіх сінонімаў. У глыбокай старажытнасці яшчэ хетскія цары насілі імёны *Мурасіла* ці *Мурсіла*. Нагадаем, што гэтыя цары жылі 2300 - 1200 гадоў да нашай эры. Мне не даступныя хетскія тэксты, а вось у санскрыце - старажытна-індыйскай мове мы знайходзім:

***murch*** - узмацняцца, станавіцца мацнейшым,

***murchana*** - які узмацняецца.

Такім чынам старажытныя арыі звязвалі мур ужо з умацаваннямі.

Заглянуўшы ў санскрыт мы знайходзім і перадумову пераходу слова ***мураль*** у ***муляр***. Справа ў тым, што санскрыцкае слова ***mura*** мае адно з гучанняў, як ***mula***.



*Мураванка*

***Mula*** абазначае *аснову*, *грунт*, *асноўны, з самага пачатку*, *грунтоўна*.

Таму можна зрабіць здагадку, што ў старажытнасці магло існаваць і два словы: ***муляр***, які засноўвае будынак, пачынае яго, і ***мураль***, які муруе. Але паколькі гэта звычайна быў адзін і той жа чалавек, то гэтыя словы вольна суіснавалі, замяняючы адно другое.

Звярнуўшы ўвагу на гняздо словаў на ***мур*** нельга не заўважыць, што гэтыя словы ніяк не перасякаюцца з другім гняздом будаўнічых словаў на ***буд*** (***будаваць, будынак, будоўля*** і г.д.) Чаму ? Адказ ізноў дае санскрыт.

***Budchna*** - *глеба*, *грунт*, *глыбіня*, *корань*.

Жытло, якое *будавалі*, капалі ў ямах, скалах, рабілі ў зямлі, з карэнняў, галінаў (*будан*), пазней - з дрэва. Жытло, якое *мuравалі* - гэта крок наперад. Гэта ўмацаванне ранейшага, гэта муры з каменю, пазней з цэглы. Абазвацць у старажытнасці мур будынкам было як бы нейкай абразай для мура. Таму ў нас з дрэва і іншых матэрыялаў *будавалі*, а з каменю ды цэглы *муравалі*. Таму ў беларускай мове на будынак з цэглы ці блокаў не правільна будзе казаць *каменны*, трэба ўжываць толькі слова ***мураваны***. Слова *каменны* мы пакідаем для збудаванняў з палявога ці колатага каменю, як правіла гэта склепы ці нешта падобнае. А вось сучасныя шматпавярховыя дамы ўжо муруюць даволі рэдка. Іх збіраюць з вялікіх ці меншых панэляў, і таму такія дамы называюцца *панэльнымі*. Для вельмі высокіх дамоў ужо ў наш час, недзе ў канцы XX стагоддзя, прыдумалі новатвор ***хмарачос***, які ўдала ўпісаўся ў мову, прыжыўся, ужываецца і будзе ўжывацца.

## Дом. Дзверы. Двор

Для старажытнага чалавека ласля яды адно з важнейшых мейсцаў у жыцці займаў дом, дарэчы, як і зараз. Таму слова ***дом*** вельмі старажытнае. На санскрыце *дом* гучыць, як ***дам***. Слова ***дом*** захавалася ў многіх мовах. ***Domaine*** па-французску - маёнтак, ***domicile*** - жыллё. Вядома лацінскае слова ***domen***. У беларускай мове для

тэрміна *дом* ёсць два словы: ***дом*** і ***хата***. Хата - слова таксама надзвычай старажытнае. Яшчэ задоўга да прыходу арыяў у Індыю ў хетаў сталіца называлася ***Хатус***, што абазначае "хаты". Нямецкае **das Haus,** дарэчы, з гэтага гнязда.

Але вернемся да слова ***дом***. Які элемент абавязкова павінен мець дом? Печ? Акно? Мэблю? Не, абавязковым і першачарговым элементам любога дома з'яўляюцца **дзверы**.

Адкуль паходзіць гэтае слова і што яно абазначае? І зноў я мушу адказаць, што і слова ***дзверы*** павінна быць крайне старажытным, не менш старажытным, чым ***дом***, бо дом без дзвярэй не мае сэнсу. Дакладней без дзвярэй, якія вісяць на завесах, ён мог быць, а вось без дзвярэй, як уваход, як адтуліна - не. На санскрыце ***dvar*** - *адтуліна, выхад* і разам з тым *дзверы, вароты, брама*. ***Dvara, dvaraka*** - таксама *дзверы, брама*.

Словы ***dvar, dvara*** утвараюць у санскрыце вялікае гняздо, але самі па сабе не адказваюць на пытанне пра сваё паходжанне. А развязак ляжыць, як заўсёды, побач. У санскрыце гняздо словаў на ***dvar*** пераплятаецца з гняздом словаў на ***dva***. А ***dva*** на санскрыце абазначае, як і ў нас ***два***. Дзверы робяць з аднаго памяшкання два, з аднаго загона два. Зачыніў і падзяліў на дзве палавіны. ***Dvir-vacana - падваенне.***

Ад слова ***дзверы*** (***dvar***) пайшло і слова ***двор*** - тое, што знайходзіцца за дзвярыма.

Слова ***двор*** пазней падрасло да значэння *маёнтак* і *прыслуга*, *почат* ці *пачот* манарха. Ад ***двара*** - словы і ***дваровы***, і ***дваранін***, і ***дворнік***.

Ад слова ***dvar*** у значэнні *брама* пайшла назва сталіцы Крышны ***Дварака***, якая знайходзілася ў заходняй часцы сучаснага Гуджарата. Ад слова ***dvar*** - і ***дварэц***. У расейскай мове гэта *палац*. У польскай і чэшскай гэта *вакзал*. Але і там, і там у наяўнасці брамы, дзверы і вароты. У беларускай мове *дварэц* - невялікі двор. Дварцоў - невялікіх дворыкаў - у нас было шмат. У кожным з іх стаяў панскі дом, часта вельмі прыгожы. Расейцы пераналі слова ***дварэц*** у прывязцы менавіта да гэтага дома, і неўзабаве яно замяніла старыннае слова ***палаты***.

Найбольш старажытная форма дзвярэй - дзверы на бегунках. У наш час пашыраны дзверы на завесах. У іх канструкцыю ўваходзіць *шуфляда*, або *вушакі*. На санскрыце ***вушакі - dvara - bahu.***

Дзверы маюць адну ці дзве *створкі*. У залежнасці ад канструкцый дзверы падзяляюцца на дашчаныя, шаляваныя і філянговыя. Дзверы ў хлявах, гумнах, адрынах называюць ***варотамі***.



***Старыя філянговыя дзверы***

У сваю чаргу адмыслова выкананыя вароты для ўезду на двор называюць ***брамай***. Брама мусіць мець два вушакі і перакладзіну зверху. Калі ў браме вешалі весніцы, то маглі ставіць трэці вушак. Вушакі ў брамах часцей называюцца ***шуламі***, як і ў плоце.

***Вароты*** - ад слова ***варочаць***. *Павярнуць, паварот, вярцець*.

***Брама.*** *Абрамленне. Рама. Рамоўка.*

Гэта словы аднаго гнязда. Фактычна вушакі з перакладзінай - тая ж рама.

Абрамленне варотаў, рама вакол варотаў - *абрама*, згубіла літару "а" і стала *брамай*. Невялікая фортка ў браме называлася ***брамка***, або ***весніцы*** за тое, што яна вісела на завесах.

*Брамка* і *весніцы* пазней адышліся ад *брамы* і сталі самастойнымі элементамі сядзібы.

## Замок, замак, смык, слесар

Старажытныя беларускія словы ***замок*** і ***замак*** трывала існуюць нашай мове і ўзніклі амаль адначасова са з'яўленнем беларускай дзяржавы. Калі ў нас з'явіліся багатыя людзі, а разам з імі і злодзеі, што хацелі быць заможнымі не працуючы, то гаспадар мусіў зачыняць свае багацці ў куфэрку ці хаце на замок - спецыяльнае прыстасаванне для замыкання з дапамогай ключа. Потым гэтае слова атрымала ішыя вызначэнні; элемент архітэктурных каменных і драўляных кагструкцый і дэталь вогнястрэльнай зброі ды іншае, але мы больш падрабязна спынімся на першапачатковых яго значэннях. Па гэтай тэме некалі, у 1998 годзе, выказаўся кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў.

## “Замок

Прыстасаванне для замыкання на ключ чаго-небудзь (дзвярэй, куфэркаў, шафаў і г.д.). Падчас археалагічных раскопкаў найчасцей сустракаюцца дзвярныя замкі і ключы да іх.

Дзвярныя замкі падзяляюцца на здымныя (цыліндрычныя з "устаўной" дужкай і разыходнымі спружынамі, замкі з адкідной паўкруглай дужкай) і нерухомыя накладныя.

Цыліндрычныя замкі існавалі з X да XV стст. Корпус цыліндрычнага замка звычайна аздабляўся насечкамі альбо напаянымі падоўжнымі ці кальцавымі палоскамі. Існавалі розныя тыпы цыліндрычных эамкоў, прычым, да кожнага тыпу замка вырабляўся адпаведны ключ.



***Навясны замок***

У XVI ст. на змену




цыліндрычным прыйшлі замкі з корпусам у выглядзе трохкутніка, чатырохвугольніка або шара. Уканцы XVII ст. з'явіліся шрубавыя замкі. Сучасныя формы "рэпчатых" замкоў вядомыя з XVIII ст.

Нерухомыя замкі падзяляюцца на камбінаваныя (з драўлянай засоўкай) і цэльнаметалічныя. Першы тып замкоў існаваў у XIV - XVI ст.ст. і меў ключы з гатычнымі элементамі. З другой паловы XVI ст. пашырыліся цэльнаметалічныя замкі з трубчатымі ключамі. З XVII ст. іх бародкі атрымалі выгляд перавёрнутай літары "Т". Да вырабаў, звязаных з замкамі варта аднесці замочныя лічыны, прычым некаторыя з іх мелі арнаментаванае аздабленне.

Існавалі таксама замкі, цалкам выробленыя з дрэва, яны адмыкаліся з дапамогай спецыяльнага каленчатага ключа.

## Замак

Замак з XI стагоддзя ў Еўропе - гэта ўмацаванае жыллё багатага чалавека (князя, караля, графа ці барона). Атрымаў назву ад слова ***замок***. Першапачаткова, ад таго. што дзверы і брамы замыкаліся на замкі ў адрозненні ад простых хатаў. Пазней замкі сталі замкамі ад зямель. Не ўзяўшы, не "адамкнуўшы" яго нельга было завалодаць краем ці нейкай тэрыторыяй".



***Лідскі замак***

Тут трэба дадаць, што слова ***замок*** у наш час мае больш шырокае прымяненне. У аўтамабілях і іншых транспартных сродках ёсць ***замкі запальвання*** са сваімі ключамі. Сёння шырока ўжываюцца ***“замкі-маланкі”*** - вельмі зручнае і надзейнае прыстасаванне. Што праўда, гэтыя замкі ў беларускай мове не *замыкаюць* і *адмыкаюць*, а ***зашпільваюць*** і ***расшпільваюць***, як гузікі. Пры гэтым дзеяслоў ***зашпіліць*** паходзіць не ад слова ***гузік***, а ад слова ***шпілька***.

А ***электронныя замкі*** знайшлі такое шырокае прымяненне, што іх сёння ці не больш, чым замкоў звычайных. Ад турнікетаў і дзвярэй пад’ездаў да самых-самых надзейных сейфаў у банках. Адпаведна ёсць і ***электронныя ключы***, бо *“замка без ключа не бывае”*.

Для Расіі зaмкі (пабудовы) былі не характэрныя, але яны знайшлі прымяненне гэтаму слову і пачалі будаваць ***“турэмныя замкі”***. Тут ужо словы ***замок*** і ***замак*** сумясціліся як найлепш, бо ў тым ***замку*** на кожных дзвярах быў ***замок***.

## Ад смыка да слесара

Зачапіўшыся за словы ***замок*** і ***замак*** нельга прайсці міма лінгвістычнага паходжання гэтых словаў. Словы ***замок, замкнуць, адамкнуць, замыкаць, прымыкаць, адмыкаць*** маюць агульны корань з апорай на зычныя ***м-к***. Дзесьці ў гэтым корані адгадка паходжання слова замок. І яна не так глыбока. Ёсць старабеларускае слова ***смыкаць***, што абазначае: *шчыпаць*, *абрываць*, *красці*, *цягаць*. *уцякаць*. Словы ***смыкнуць, умыкнуць*** - *украсці*, *уцячы*. У польскай мове слова ***smykac*** абазначае тое самае. Польскае слова ***smykalka*** абазначае *кемлівасць* (парасейску ***смекалка***), якасць, вельмі патрэбная злодзею.

Згадаем і словы ***смык***, ***смычок*** ад скрыпкі і тое, што скрыпка інструмент шчыпковы. *Смык шчыпае* струны. Дарэчы, у беларусаў, як у сапраўднага еўрапейскага народа, была некалі свая нацыянальная скрыпка. Яна мела, праўда, усяго тры струны, але ў параўнанні з іншымі інструментамі гучала вельмі прыстойна. Гэтая скрыпка і называлася ***смык***, а да с*мыка* ўжо дапасоўваўся ***смычок***. Не лішнім будзе нагадаць, што, калі Францішак Багушэвіч называў сваю другую кніжку "Смык беларускі" (першая была "Дудка беларуская"), то меў на ўвазе не смычок, а, менавіта, гэты трохструнны смык. Пры гэтым ён казаў, што вось зараз будзе *“Смык...”*, а там, можа, і да *“Скрыпкі...”* справа дойдзе, гэта значыць, што зараз ідуць больш простыя рэчы, а пазней павінна з’явіцца нешта больш дасканалае, як скрыпка больш дасканалая, чым смык.

Такім чынам словы ***смыкаць, умыкнуць*** абазначалі *ўкрасці*, *адшчыпнуць* (таксама *ўкрасці*, але не ўсё), *уцячы*. Супраць такіх дзеянняў трэба было неяк супрацьстаяць - ***замыкаць***, вешаць ***замок***. А ўжо пасля ***адмыкаць***, для сябе. *Замкнуў, каб ніхто не смыкнуў*.

Цалкам пацвярджаецца ўсё сказанае і аналізам таго ж гнязда словаў у нямецкай мове. ***Das Schloss*** - *замак* і *замок*. Der Schlussel - *ключ*. Schliessen - *зачыняць*, *замыкаць*. Schleissen - *шчыпаць*. Паўтараецца ланцуг ад ***шчыпаць*** да ***замка***.

А пры чым тут **слесар**? А пры тым, што ў Германіі майстар, які умеў рабіць замкі (***das Schloss***) называўся па-нямецку ***der Schlosser***, адкуль і пайшло слова ***слесар***, распаўсюдзіўшыся наогул на майстроў па апрацоўцы розных металічных вырабаў.

Заўвага: тут, раней і пазней спецыфічная нямецкая літара ***s гатычнае*** з-за яе адсутнасці на клавіятуры па старой беларускай традыцыі, якая сягае ў пачатак XX стагоддзя, пішацца праз ***ss***. У часы 1-й Сусветнай вайны ў нашых друкарнях былі рускія і польскія шрыфты. Калі даводзілася друкаваць нейкі нямецкі (не вельмі важны) тэкст, то друкары не напружвалі сябе пошукам ***s гатычнага***, а ставілі ***ss***.



№ 18 (174) 30 КРАСАВІКА 2025 г.
наша СЛОВА.pdf

*Язэп Палубятка*

# САНЕТЫ

38

Пражыў, не кахаючы, век,
Не зведаў ні горыч, ні слодыч яго.
Пасля не кажы, што ты чалавек,
На зямлі ты - чарвяк усяго.

Каханне цвіце, бы вішнёвы сад,
Як ружы бутон распускаецца.
Бывае ж і ў шчырым каханні разлад,
Не ўсё ў жыцці збываецца.

Яркія зоры, высокія мроі,
Ясны жыцця далягляд.
Яскравыя ў нашым каханні настроі,
Ды роспач прыйдзе неўпапад.

Здабыў каханне - беражы яго
Ад ліха ліхога і дурнога ўсяго.

39

Растанне з мінулым - пакута і мука.
Стаіш на мяжы. Што было, і што будзе?
Сумненні ў сэрцы агортвае скруха.
І думы, і думы: што знікне, прыбудзе?

Адбудзецца тое, чаго не чакаеш.
Шлях светлае мары ўзносіць падонка.
Гаворыць салодка ды сцеле нам мулка,
А словы цурчаць малаком у даёнку.

Я задаю ўжо звыкла пытанне:
Чаму вербалоз гнецца пад ветрам?
Мама мяне нарадзіла з кахання,
Ніхто з нас не хоча пражыць пустацветам.

Што б ні было з табой ў гэтым свеце -
Наша жыццё - гэта кветак суквецце.

40

Холадна. Кароткія дні. Восень позняя,
Лісце апала, і гай не шуміць без лісця.
Па жыцці ўсё спазнаеш:
смерць, таямніцу апошнюю.
А як не зможаш здзейсніць, дык не бярыся.



Позняя восень жыцця. Ты аджыў, чалавеча.
Калісьці рулады кружылі табе галаву,
Цяпер ты старэча, старэча, старэча,
Ды толькі ляпечаш: "Яшчэ я магу!"

Калісьці мог ты горы варочаць,
Узахлёб піў з крыніцы ваду.
Ды толькі час насурочыў
Нягегласць тваю і бяду.

Не сумуй, што восень жыцця прыйшла,
Прыйдзе і час небыцця.

41

Усе клятвы ілжывыя, якія б ты не давала.
Хвалі на моры ці штыль,
Паразумення з табой мне заўжды не ставала,
А палкія словы - цвіль.

У сэрцы маім несканчона зіма.
Ты цешысся з некім, цвіцеш, як вясна.
Толькі не вечнай будзе яна,
Гэтак жа некалі прыйдзе зіма.

Салодкі першага позірку спеў.
Прэлюдыя скончана, бубны гучаць,
А далей - самотны напеў,
Спеваў Арфея ўжо не чуваць.

У каханні павінны ўсе ноты паўстаць,
Фальш не павінна вам замінаць.

42

Усё стыне пад снегам зімою,
Нават рыба ідзе ў глыбіню.
Шмат было паміж мной і табою,
А буду помніць тваю цеплыню.

Палкасць вуснаў пякла, як перац,
Рукі сціскалі твае, як абруч.
Чым жа каханне нашае мераць?
Побач хацелася йсці, не звярнуць.

Час з намі гуляе, як з чоўнам маяк.
Расталіся мы недарэчна.
Усё было так і раптам - не так,
Ды было ўсё між намі сардэчна…

Як Божы дар было наша спатканне,
Ды зберагчы не сумелі каханне.

43

Пануры твой погляд, як восенню сад.
Лісце апала, як вейкі твае.
Нейкі яблык знойдзеш сярод прысад.
Цалаваць твае вусны хочуць мае.

Наша каханне, бачна, усё ж зацвіце.
Стыне зямля ад марозу ў прызімку.
І хочацца мне на руках цябе панясці
Ды цалаваць, цалаваць без супынку.

Палкасць кахання такога нельга стрымаць.
Голуб з галубкаю дзесьці варкуе.
Хіба душою ўсё можна ўспрыняць,
Часу зямнога на гэта бракуе.

Як пакахаў - кахай заўжды,
І па жыцці не будзе бяды.

44

Ведай, каханне ёсць мука,
Яно табе заўжды напамінам,
Нават у светлыя дні прыходзіць скруха,
Не жыві ўсё жыццё ўспамінам.

Белая заўжды мука.
Белай віхуры снег.
Шэрай бывае труха.
На рэчцы губляецца чоўна след.

Усяму надыходзіць край.
Лета, восень, зіма, вясна -
Кожную пару года сэрцам спаткай,
Ведай - усё, што ёсць, нездарма.

У свеце ёсць і добрае, і злое,
Не вечна на зямлі благое.

45

Ранак. Патухаюць зоркі.
Ружавее ўсходні небасхіл.
Нам да шчасця засталіся крокі,
Ды ў гары высокай стромкі схіл.

А здавалася ўсяго ды трохі -
Радасць у нас заззяе ў вачах.
З былога шчасця засталіся крохі,
Як яго збіраць нам па начах?

Зоркі зноў засвецяцца ўвячоры,
Заблішчаць, агнём заміргацяць.
Жывём сёння мы, як у пячоры,
Аб будучыні варта б пагадаць,

Каб Радзіму нашу дарагую
Захаваць тут, як зямлю святую.

46

Адумайся і агляніся навакол,
Жыццё не вечнае, павер і пагадзіся,
І думай, каб багатым быў твой стол,
Ды сябру вернаму за дапамогу пакланіся.

Мой сябра, я табе скажу адно:
Не апускайся ты ў жыцці на дно.
Жыццё складаней, як не варажы,
Мы рубікон свайго жыцця прайшлі.
Якім бы Бог не быў, ты не грашы,
Жыцця святло захоўвай у душы.

Юпітэр яснай ноччу, нібыта зорка, свеціць.
Кахання чыстага яскравы ўспамін.
Юнак сваёй душой у неба меціць,
А па жыцці ідзе зусім адзін.





# АД ПРАДЗЕДАЎ СПАКОН ВЯКОЎ…

Пабачыла свет чарговая кніга эсэ і нарысаў вядомага журналіста і пісьменніка Уладзіміра Барысенкі "На глебе спадчыны". Яна стала своеасаблівым працягам двух папярэдніх выданняў аўтара : "І колькі б часу ні прайшло" (2022) і "Карані сілы" (2024).




Адна з адметнасцяў нядаўняй - вялікая колькасць фотаілюстрацый, сярод якіх партрэты вядомых асобаў, фатаздымкі сустрэч пісьменнікаў, удзельнікаў імпрэзаў, дакументы з сямейных архіваў, фота кніг, паштовых марак, будынкаў… Гэты каштоўны матэрыял дапамагае ў найбольшай ступені пазнаёміцца з тэматыкай саміх 16 артыкулаў.

Пачынаецца расповед з "Калыскі дзяржаўнасці", у якой гаворка ідзе пра найстаражытнейшы паводле згадак летапісу беларускі горад Полацак. Дарэчы, на ілюстрацыі, пададзенай на веку аправы, мы бачым Полацкі Сафійскі сабор. Аўтар апавядае пра Рагнеду, Еўфрасінню Полацкую, Францыска Скарыну…

Зразумела, чаму Ул. Барысенка зрабіў ад пачатку "гістарычную запеўку": сказанае далей павінна разумецца ў кантэксце гісторыі Беларусі як наша гістарычная спадчына, як агульная велізарная каштоўнасць, што і падкрэсліваў у свой час наш пясняр Янка Купала :

*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*нам засталася спадчына…*



***Уладзімір Барысенка на Дні беларускага пісьменства ў Полацку, 2017 г.***

Калі гаварыць пра артыкулы цалкам, дык трэба адзначыць, што напісаны яны добрай мовай, проста і даходліва, з разлікам на чытача, якому, магчыма, асноўныя гістарычныя звесткі мала ці зусім невядомыя. У асноўным тэматыка звязана з літаратуразнаўствам, але аўтар не робіць паглыбленага аналізу літаратурных паэтычных твораў, якія ён часам цытуе. Вельмі важна, што ў матэрыялах ёсць шчырае захаванне памяці пра мінулае, прасвечваецца адукацыйная, асветніцкая мэта…

У полі даследаванняў аўтара такія вядомыя прадстаўнікі беларускай літаратуры, як Алаіза Пашкевіч, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйло, Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўкі, Міхась Лынькоў, Пімен Панчанка, Іван Чыгрынаў, Леанід Дайнека, а гэтаксама прадстаўнік пісьменніцкай хвалі ўжо незалежнай Беларусі Юрась Кур'яновіч.

У галерэю герояў далучаны яшчэ тры асобы - ветэраны беларускай міліцыі - генерал Віктар Лазебнік, падпалкоўнікі Станіслаў Крэпскі і Канстанцін Андрончык. Варта адзначыць, што Крэпскі разам са сваёй унучкай Арынай Клімовіч з'яўляецца аўтарам выдання "Тапонімы роднага краю і побыт яго насельнікаў" (2021) - цікавага пазнавальна-адукацыйнага краязнаўчага нарыса пра







***Міхась Лынькоў, Макар Паслядовіч, Янка Купала, Максім Танк, Пятрусь Броўка і Яніна Бранеўская, 1940 г.***



***Канстанцыя Буйло, 1980 г.***

мясціны Пухавіцкага раёна, а Канстанцін Андрончык напісаў кнігу прозы "Всегда с тобой, моя земля…" (2024). Генералу Лазебніку прысвечана кніга "Віктар Лазебнік. Тры вайны генерала міліцыі", якую выпусціла выдавецтва "Адукацыя і выхаванне" ў 2021-м у серыі "Асобы".

Што ж аб'ядноўвае ўсіх герояў кнігі Уладзіміра Барысенкі "На глебе спадчыны"? Сам аўтар кажа, што адказ на гэтае пытанне трэба шукаць найперш у анатацыі да выдання. Працытуем яе: *"Героі новай кнігі Уладзіміра Барысенкі - слынныя творцы мінулых часоў і тыя, для каго вялікая, неацэнная, багатая літаратурная спадчына папярэднікаў стала моцным, трывалым, надзейным падмуркам для выказвання з дапамогай сваёй асабістай творчасці сваіх асабістых разваг, думак, памкненняў і адносінаў да нашай гісторыі і культуры, унутраным псіхічным жыццём, якое мы называем духоўнасцю. Менавіта супрацьлегласць фізічнай і цялеснай*



***Пімен Панчанка ў працоўным кабінеце***

*сутнасці чалавека і вызначае і ягоны асабісты лёс, і лёс усёй краіны, у якой у той ці іншы перыяд гісторыі гэты чалавек жыве. На прыкладзе герояў эсэ і нарысаў, якія склалі кнігу, яе аўтар слушна сцвярджае, што наша гісторыя - гэта скарбніца нашых учынкаў і дзеянняў, сведка нашага цяжкога мінулага, прыклад, павучанне для цяперашняга і перасцярога для будучага".*

Асабліва трэба адзначыць наступнае. Уладзімір Барысенка падае цікавыя, часам невядомыя шмат для каго



***Прысваенне Івану Чыгрынаву звання "Ганаровы грамадзянін г. Касцюковічы", 1992 г.***





факты. Гэтак, напрыклад, мы чытаем пра абставіны смерці Змітрака Бядулі (Самуіла Плаўніка), адрозныя ад таго, як гэта падавалася раней. *Спасылка ідзе на сведчанне сына пісьменніка. Аўтар піша: "Па словах сына З. Бядулі Яфіма Самуілавіча, наш класік памёр не ў час спынення цягніка на станцыі, калі выйшаў з вагона, а потым, пачуўшы гудок, пабег з хворым сэрцам і не дабег да свайго месца. Змітрок Бядуля памёр менавіта ў вагоне, падчас руху цягніка ў бок Уральска"* (с. 34). Вядома, падобныя дэталі-ўдакладненні будуць цікавымі для ўсіх прыхільнікаў неўміручай творчасці класіка, для літаратуразнаўцаў і даследчыкаў дзейнасці пісьменніка.

У гэтым аглядзе нельга звярнуць увагу на эсэ "Энцыклапедыя "Караткевіч". Гаворка ў ім ідзе пра адметны энцыклапедычны даведнік "Уладзімір Караткевіч (Мінск, 2020)." Выдаўцы палічылі патрэбным здзей-сніць такую задуму раней за час завяршэння выхаду 25-томнага Збору твораў Уладзіміра Сямёнавіча, які цяпер выпускае "Мастацкая літаратура". Несумненна, шмат якія факты, патрэбныя дзеля гэтага, мы мусім браць менавіта адтуль, дзе ёсць, напрыклад, каментары. Але даведнік выйшаў да 90-годдзя вялікага творцы. У выданні змешчаны і артыкулы, напісаныя пра юбіляра і самім аўтарам "На глебе спадчыны".



ПАДЗЯКА

*Барысенку Уладзіміру Уладзіміравічу*

**за вялікі асабісты ўклад у стварэнне персанальнай энцыклапеды «Уладзімір Караткевіч».**

*Дыплом ґерамажцы нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі – 2021» у тэматычнай намінацыі «Залатыя скрыжалі»*

Дырэктар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» В.У. Ваніна

Ствараецца ўражанне, што Ул. Барысенка спрабуе здзейсніць штось накшталт фактычнага збору твораў, і гэта правільна: важныя і цікавыя для масавага чытача газетныя і часопісныя публікацыі маюць патрэбу аб'яднання ў падобных зборніках. Выданне ж можа быць вельмі карысным, у тым лік, для школьнікаў і студэнтаў. Яно нават вабіць знешне. Калі бачыш яго эстэтычнае аздабленне, дык адразу хочацца ўзяць у рукі і пагартаць…

Магчыма, журналіст і пісьменнік, паказаўшы сябе добрым даследчыкам, выдавацьме і надалей падобныя кнігі. Пабачым. Гэтая ж, як і дзве згаданыя папярэднія, выдадзена невялікім накладам - усяго 100 асобнікаў. Гэта, на вялікі на жаль, стала частай з'явай у нашым сучасным кнігадруку. Думаю, у будучыні магло б быць і другое, дапрацаванае і дапоўненае выданне кнігі, пра якую гаворка. Яна таго заслугоўвае.

***Алесь Маляўскі.***

# Сустрэча з пісьменнікам

23 красавіка ў філіяле № 4 ДУК "Цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма г. Баранавічы" адбылася аўтарытэтная сустрэча "Пра жыццё, творчасць і каханне" з Віктарам Праўдзіным, пісьменнікам, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтарам шматлікіх раманаў, аповесцей, цікавым суразмоўцам.









Аўтарытэтны госць распавёў пра свой творчы шлях, адказаў на пытанні прысутных.

***ТК "Дом Валянціна Таўлая".***





# Літаратурная гісторыя Случчыны

Сёлета ў пачатку красавіка менскае таварыства з абмежаванай адказнасцю "Колорград" выпусціла ў свет тыражом 50 асобнікаў (255 старонак тэксту і 12 старонак фотаілюстрацый) кнігу жыхара горада Слуцка Анатоля Жука "Слуцкая літаратурная даўніна".

Выданне прысвечана слуцкім літаратарам XV-XIX стагоддзяў (хто нарадзіўся не пазней за 1900 год). Аўтар звярнуў увагу не толькі на ўраджэнцаў Случчыны, але і на тых пісьменнікаў, якія некаторы час жылі (вучыліся ці працавалі) у нашым краі, і хто ў сваёй творчасці не абыходзіў увагай Случчыну і случакоў. У выніку атрымаўся цікавы даведнік пра жыццё і творчасць амаль дзевяці дзясяткаў тагачасных літаратараў.

Так склалася, што большасць ураджэнцаў Случчыны жылі і займаліся літаратурнай творчасцю за межамі Беларусі: у Злучаных Штатах Амерыкі, Ізраілі, Польшчы, Расіі. Таму на радзіме пра іх мала што вядома. А між тым Яакаў Кахан і Іцхак Доў Бярковіч, напрыклад, сталі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі Ізраіля ў галіне літаратуры, прытым Кахан - двойчы. А ці многія ведаюць пра тое, як сябравалі і дапамагалі адзін аднаму случак Браніслаў Залескі і ўкраінец Тарас Шаўчэнка? Яшчэ аднаго случака, Аўрома Эпштэйна, сучаснікі называлі "одним из тех, кто формировал облик современной еврейской литературы".

Нямала цікавых фактаў аўтар прыводзіць пра тых літаратараў, хто часова знаходзіўся на Случчыне. Напрыклад, ці ведаеце, што выдатны дзеяч беларускага Адраджэння Мацей Стрыйкоўскі, па ўласным прызнанні, у Слуцку працаваў, "як раб у егіпецкіх каменяломнях"? А рускі публіцыст і царкоўны дзеяч Арцемій, які вёў палеміку з Сымонам Будным, з чатырнаццаці сваіх пасланняў, накіраваных супраць рэфармацыйнага руху ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзевяць напісаў менавіта ў Слуцку.

Слуцк займае адметнае месца ў мемуарах Фёдара Еўлашоўскага, Яна Цадроўскага, Фадзея Булгарына, Эдварда Вайніловіча. Слуцкім князям Алелькавічам прысвячалі свае творы Саламон Рысінскі, Даніэл Набароўскі, Крыштаф Зяновіч, Станіслаў Кулакоўскі, Юзаф Крашэўскі, Уладзіслаў Сыракомля, Жазэфіна Асіпоўская.

Пра гэта і многае іншае можна даведацца з кнігі "Слуцкая літаратурная даўніна". "Сведчаць сучаснікі", "Першыя літаратары з гімназістаў", "Ад Замосця да Варшавы", "Брат і сястра - пісьменнікі" - назвы толькі некаторых яе раздзелаў. Дадатковую значнасць кнізе дадае ўнушальны (87 пазіцый!) спіс выкарыстаных аўтарам крыніц не толькі на беларускай, але і на рускай, польскай, англійскай мовах.

Дзве самыя старадаўнія з іх адносяцца да 1772 і 1781 гадоў выдання. Менавіта ў кнізе 1781 года можна прачытаць уласнаручныя запісы пра Слуцк іераманаха Дзімітрыя (сапраўдныя імя і прозвішча Даніла Савіч Туптала), які з часам стаў вядомым пісьменнікам і праваслаўным царкоўным дзеячам, мітрапалітам Растоўскім.




У памяці случакоў засталіся не толькі пропаведзі іераманаха Дзімітрыя, але і тое, што на пагосце слуцкага Свята-Троіцкага манастыра ён уласнаручна выкапаў калодзеж, сам зрабіў для яго зруб і на верхняй дошцы выразаў:

*Пошто намъ въ Самарію за водой ходити,*
*Егда и зде, въ Случеске, лепо её пити?*

Такімі словамі іераманах Дзімітрый выказаў згоду з імкненнем епіскапа Феадосія Васілевіча (архімандрыт слуцкага Свята-Троіцкага манастыра) і яго аднадумцаў з ліку праваслаўных вернікаў зрабіць беларускую царкву незалежнай ад Масквы і Кіева.

Анатоль Жук самакрытычна заўважае: пра некага з літаратараў, што мелі адносіны да Случчыны, удалося знайсці больш звестак, пра кагосьці - не вельмі шмат, таму расказ пра іх атрымаўся кароткім. Яно так, але змест кнігі "Слуцкая літаратурная даўніна" дае спадзяванне, што яе з карысцю могуць выкарыстаць настаўнікі літаратуры, гісторыі, вучні і студэнты, работнікі ўстаноў культуры.

Набыць кнігу Анатоля Жука "Слуцкая літаратурная даўніна" можна ў менскім магазіне "Акадэмкніга" (праспект Незалежнасці, 72), а даведацца пра яе наяўнасць у продажы - па тэлефонах: +375 (17) 379-46-52; +375 (17) 379-50-43.

*Мікола Курыльчык,*
*жыхар г. Слуцка.*





## *Станіслаў Мараўскі*

# Некалькі гадоў маёй маладосці ў Вільні[1] (1818-1825)

*(Працяг. Пачатак упапярэдніх нумарах.)*

Хацкевіч пачаў няўпэўнена адмаўляцца, маўляў, ён мала цяміць у гульні і таму, як чумы, баіцца картаў, у яго такая няшчасная натура, што як толькі ён пачынае ці выйграваць ці паігрываць, дык страчвае кантроль над сабой і робіць вялікія глупствы. Немец абяцаў трымаць яго за полы і павёў у клуб.

Перад круп'е на стале ляжала вялікая куча золата. Грала мноства людзей. Хацкевіч прайграваў, выйграваў, зноў прайграваў і нібыта ўсё больш распаляўся - пацеў, чырванеў і нарэшце ў парыве запалу выгукнуў: "Іду ва-банк!". Круп'е і ўсе навакольныя перапалохаліся. Нарэшце, пасля кароткіх перамоваў, круп'е сказаў Хацкевічу: "Добра, калі пан выйграе, а калі прайграе?" - і з шанаваннем пакланіўся яму. На гэта Хацкевіч адказаў з найвялікшай ветлівасцю: "Маеш пан рацыю, але я маю надзею, што пан прэзідэнт клуба, які бачыў мае грошы, гарантуе маю плацежаздольнасць. Бургамістр паручыўся. Пачалі гуляць. Клуб месціўся ў пакоях вялікага дома на пагорку. Вокны выходзілі на вуліцу. Было лета. Здушаны Хацкевіч, з калодай карт у руцэ, расшпіліў камізэльку, распусціў хустку на шыі, адчыніў акно і сеў на яго як на каня - адна нага на вуліцу. У агульнай блытаніне ніхто не заўважыў гэту непрыстойнасць. Пайшла шчаслівая карта, і Хацкевіч узяў банк. Члены клуба разам з усімі прысутнымі рвалі сабе валасы на галаве, бо было тут паўмільёна злотых. Хацкевіч спакойна, бразгаючы ланцужкамі гадзіннікаў, бо ў той час насілі два гадзіннікі, папрысутнічаў яшчэ з чвэрць часу, а потым развітаўся і вярнуўся дадому.

Хутка прыехаў бурмістр і павіншаваў яго з вялікім шчасцем. Мяшочкі з грашамі яшчэ ляжалі на стале, і каля брамы ўжо стаяў запакаваны і запрэжаны дыліжанс.

- Вы што, з'язджаеце?

- Так.

- Але, мой Бог, чаму так хутка?

- Не, у самы раз.

Адлічыў з мяшка тысячу дукатаў і ахвяраваў іх гаспадару. Немец з радасці ледзь не самлеў і пачаў цалаваць рукі свайму дабрачынцу.

- Не трэба так, Васпан, гэта занадта, - сказаў Хацкевіч. - Бо ты прымаў большы ўдзел у маім шчасці, чым думаеш. І ты зарабіў гэтыя грошы.

Немец, не разумеючы справы, пачціва пакланіўся.

- Пан бурмістр, - сказаў далей Хацкевіч. - Развітваюся з табой, але прымі ад мяне адну сяброўскую параду. Ніколі не бяры адказнасць за людзей, якіх дрэнна ведаеш. Сёння ты за мяне паручыўся, але зірні, што я маю ў куфрах.

Там было нешта сапраўднае: золата можа тысячы на дзве - тры дукатаў, ніжэй дробязь, а яшчэ ніжэй - пясок.

- Каб прайграў, дык уцёк бы, таму я і сядзеў у акне, а мой чалавек стаяў на трэцяй вуліцы з фурманкай і хутка я быў бы ўжо далёка. Ведай, што я стары і дасведчаны шулер, які наўмысна прыехаў сюды, каб паспрабаваць шчасця і ўзяць банк. Што б ты рабіў, калі б я прайграў? Немец, як стары асёл, стаяў з разяўленым ротам. Хацкевіч пагрузіў у жоўты дыліжанс свае грошы, паціснуў яго руку і шчасліва паехаў.

Падчас кантрактаў у Кіеве, у вялікім начным зборы цывільных і ваенных гульцоў вышэйшага свету, Хацкевіч узяў банк, седзячы паміж двума расійскімі генераламі. Той, хто сядзеў справа ад яго, увесь час прайграваў, маркоціўся і мітусіўся, бо бачыў, што Хацкевіч падманвае. Прайграўшы, гэты генерал рэзка ўстаў і раптоўна ўдарыў Хацкевіча ў твар. Хацкевіч спакойна падняўся і замест таго, каб адплаціць крыўдзіцелю, ударыў у твар нявіннага генерала, які сядзеў злева, пасля чаго зрабіў жэст рукой, як гэта бывае ў студэнцкіх гульнях: "Sequens" (лац. "Наступны", у сэнсе, перадай далей. - *Л. Л.*). Усе зарагаталі і тое, што магло перарасці ў бойку, скончылася шампанскім.

Нейкі малады і небагаты педант, ліцвін, адданы філасофскім абстракцыям, наслухаўшыся пра Хацкевіча, адчуў да яго вялікую пагарду і агіду. Ён не ведаў генерала асабіста, але дзе толькі мог выказваў сваё стаўленне і засцерагаў маладых і багатых сяброў. Хацкевічу гэта не спадабалася, бо малады чалавек рушыў яго шулерскія планы.

Генерал у душы лютаваў і шукаў, як адпомсціць. Але гэты ліцвін неўзабаве пераехаў у Варшаву. "Плёткары" даносілі, што малады чалавек днём і ноччу марыць толькі аб тым, каб паехаць за мяжу. Хацкевіч, як кажуць, накруціў гэтую чутку сабе на вус і праз некалькі месяцаў, у надзеі на картачны поспех, прыляцеў у Варшаву. І тут яго невядомы антаганіст зноў абарваў струну, нацягнутую ўжо шулерам у бок нейкага малакасоса.

І тады Хацкевіч прыклаў усе сілы каб пазнаёміцца і пасябраваць з гэтым чалавекам. З яго незвычайнымі талентамі атрымалася гэта латва і сардэчна. Малады чала-

[1] Morawski Stanislaw. Kilka lat mlodosci mojej w Wilnie (1818-1825). Warszawa, 1924. *Пераклад Леаніда Лаўрэша.*





век быў ушанаваны, дагледжаны і зачараваны досціпамі, пасля чаго з непрыяцеля хуткаператварыўся ў душу, аддадзеную Хацкевічу. У размовах ён прызнаўся ў сваім непераадольным жаданні паехаць у вандроўку за мяжу, на што не меў грошай. "У чым справа, мой дарагі?", - сказаў Хацкевіч, - "Супакойся. Праз восем дзён я еду за мяжу і ў добрай карэце аб'еду ўсю Еўропу. Калі тваім непараўнальным ведам і здольнасцям патрэбна толькі гэта, лічы, што паездка ў цябе ў кішэні. Сядай і едзь са мной за мой кошт. Але калі мне трэба будзе некуды з'явіцца разам з табой, я хачу, каб ты выглядаў па-панску. Таму дазволь для цябе заказаць прыдатны і элегантны гардэроб, а рэшту дакупім за мяжой".

Як сказаў, так і зрабіў. Малады чалавек ледзь не ўпаў яму ў ногі. Паехалі. Прыехалі ў Дрэздан. Хацкевіч, яшчэ раней, сказаў свайму спадарожніку, што па нейкіх прычынах не хоча тут паказвацца і просіць яго заняць раней заказаны добры нумар ў гатэлі, а сам будзе жыць ў танным малым пакойчыку. Ехалі без адпачынку два дні і дзве ночы. Маладзён хацеў адразу кінуцца ў ложак. Але Хацкевіч убачыў аб'яву пра маскарад у наступны вечар і паслаў маладога ваяжора арандаваць у дырэкцыі тэатра маскарадны касцюм паяца. Сам з'ездзіў разам з ім у фраку, разам яны і вярнуліся. Нарэшце, папілі гарбаты, павячэралі і леглі спаць. Але як толькі малады чалавек моцна заснуў, Хацкевіч забраў усё яго адзенне і бялізну - усе што сам справіў яму ў Варшаве і пакінуў толькі маскарадны касцюм, пасля чаго заплаціў за свой малы пакойчык і з усімі рэчамі выехаў з горада. Малады бядак спаў нявінным сном да поўдня. Калі прачнуўся, не знайшоў нічога, акрамя тэатральнага касцюма. Звоніць. Гарсон паведамляе, што яго сябар ужо дзесяць гадзін як з'ехаў. У роспачы кідаецца ў кабінет свайго нумара і знаходзіць на стале чвэрць аркуша паперы з такімі словамі: "Выкручвайся зараз, як можаш! Але ведай, блазан, што Хацкевіч ні ў Вільні, ні ў Варшаве і анідзе, не дазволіць беспакарана шкодзіць і абражаць сябе".

Лёгка ўявіць роспач гэтага беднага чалавека! Без вопраткі, без бялізны, без грошай у чужым горадзе ў маскарадным старасвецкім фраку з вышыўкай! Гэта была страшная помста, у якой больш ганебнай злосці, чым помслівага досціпу! Толькі дзякуючы складкам сваякоў, праз некалькі месяцаў пакут, ён змог вярнуцца ў Варшаву.

Хацкевіч, бываючы ў Вільні, заўсёды спыняўся ў доме Мюлераў[115], займаў тут самыя вялікія пакоі і звычайна плаціў па дукату ў дзень. У 1815 г., як расказваў мне сам Мюлер, Хацкевіч прыехаў у Вільню і спыняўся ў той самай кватэры. Калі спытаў ў служкі пра кошт, той адказаў, што плаціць трэба па два дукаты за дзень. Гэта здалося яму зашмат, і назаўтра ён сам пайшоў да Мюлера. Той адказаў, што домам кіруе жонка. Хацкевіч пайшоў да жонкі. Жонка кошт не панізіла, бо быццам падаражэла паліва. У душы наш герой злаваўся ад безвыніковасці перамоў, але не было чаго рабіць. Ён здымаў кватэру каля двух месяцаў, рэгулярна плаціў па два дукаты і часта наведваў Мюлераў. Неяк прыехаў да іх і прызнаўся, што павінен паехаць на тры дні ў Нямежу пад Вільняй, дзе збіралася кампанія карцёжнікаў. Пасля чаго адтуль ён на тыдзень ці болей паедзе ў Смаргонь і Ашмяны. Таму папрасіў, каб кватэру ўвесь гэты час да яго вяртання абслугоўвалі і ацяплялі. Мюлер ахвотна пагадзіўся, але Хацкевіч яшчэ ўзяў з яго слова гонару і толькі тады ўехаў. Паляць печы, чакаюць два, тры, чатыры, восем тыдняў, нікому не здаюць гэтую кватэру. Але больш Хацкевіч не з'яўляўся ў Вільні і толькі праз год, праз кагосьці запытаў у Мюлераў, ці добра правучыў іх?

Меў годнага, шляхетнага і сціплага сына, які потым страціў нагу на вайне. Кожны раз, калі Хацкевіч з кім-небудзь яго знаёміў, дык заўсёды рэкамендаваў яго як апошняга баязліўца, які нічога не ўзяў ад свайго бацькі: "Вы толькі паглядзіце, панства, прайшло два гады, як я падараваў гэтаму блазну гадзіннік Брэгет з рэпецірам, а ён ўсе яшчэ яго мае! Я б на яго месцы ўжо сто разоў гэтую цацку прайграў, перапрадаў ці сапсаваў. Убачыце, нічога ў яго не выйдзе!".

Але трэба ўжо заканчваць гэтыя анекдоты, якія сталі прычынай няшчаснага лёсу Хацкевіча. У апошнія гады, калі жыў у сваім маёнтку на Валыні, яго насілі на руках Патоцкія, Машынскія, Свяйкоўскія, але яго маёнтак межаваў з маёнткам багатай і старой панны Барэнцкай, асобай якая мела ўплывовых сваякоў, была ганарлівай і сварлівай. Паміж імі ўвесь час успыхвалі спрэчкі пра лес і межы, і Хацкевіч раззлаваўся! Каб адпомсціць, падаў уладам паперу, з якой выходзіла, што Барэнцкая штогод сакрэтна вывозіла за мяжу аднаго, а можа і болей са сваіх падданых і, магчыма, сярод іх меліся рэкруты.

Узняўся шум, камісіі, следства. Здаўна ўсе ведалі што Барэнцкая штогод выязджае за мяжу. Сабралася камісія. Хацкевіч выступіў з новымі абвінавачваннямі. Казаў, што панна Барэнцкая штогод, сакрэтна выязджае ў Аўстрыю, каб там пакінуць сваё дзіця. А паколькі бацькамі гэтых немаўлят былі мужчыны таго стану, з якога бяруць у рэкруты, ён не можа паручыцца, што гэтая панна такім жа чынам раней не вывозіла і рэкрутаў.

Гэта быў крыважэрны, пякельны жарт. Але былая зорка Хацкевіча ўжо паблякла. Тое, што раней ішло яму на карысць, цяпер палічылі смяротнай абразай багатай і ўплывовай сям'і Барэнцкай і самой камісіі. Яго абвінавацілі ў палітычных справах, небяспечных для ўраду. Па патрабаванні ўсіх крэўных Барэнскай, Хацкевіча выслалі ў Вятку, дзе ў нудзе, няўтульнасці і бяздзейнасці ён і

[115] Доктар Цітыюс пісаў: "1855. 27 траўня шляхта Віленскай, Гарадзенскай і Ковенскай губерняў сустрэла Назімава прыгожым балем у залах дома Мюлера (потым Шышкі, зараз яго зяця Слатвінскага), дзе раней была Рэсурса".- Гл: Віленскія ўспаміны доктара Юльяна Цітыюса .... С. 9. - *Л. Л.*

закончыў сваё жыццё.

Але вернемся зараз да сваіх.

**Раздзел 8.**

**Станіслаў Расалоўскі, доктар медыцыны і паэт. Апісанне дактарацыі ў Віленскім універсітэце. Смерць маці Караля Мараўскага. Знаёмства аўтара з Эльжбетай Мюлеравай. Гарбата ў яе. Яе дачка і пляменнік.**

Я расказваў ужо пра людзей, якіх сустракаў у Караля Мараўскага. Шмат каго я не буду згадваць, бо яны менш вартыя ўвагі, але я павінен сказаць некалькі слоў пра доктара Расалоўскага[116], паэта і ва ўсіх адносінах унікальнага і арыгінальнага чалавека.

Др. Станіслава Расалоўскага маладыя ідыёты з-за нейкага ўяўнага недахопу называлі …. Яго маці была актрысай, і калі я пазнаёміўся з доктарам, яна ўжо была замужам за іншым акцёрам. Гэтае знаёмства, дарэчы, потым горка адплаціла мне. Аднойчы я быў у тэатры "Цуда", куды прыехалі з Варшавы славутыя ў той час Ледахоўская і Вяроўскі[117]. Яны закружылі нам галаву сваім дзіўным талентам, але ўсю справу псавала сярэдняя актрыса Кучынская. Я, жывы і адкрыты, прывык заўсёды голасна выказваць свае думкі і неяк, калі Расалоўскі сядзеў побач са мной, сказаў: "Ах, каб мог, я б той карове Кучынскай наддаў бы розаг! Бога не баіцца і псуе ўвесь спектакль". Знакаміты дасціпнік і каламбурыст граф Гюнтар[118], які сядзеў з другога ад мяне боку, штурхнуў у бок і папярэдзіў, што яна - маці Расалоўскага. А каб іх снег спаліў! Але мне навука! Калі жывеш сярод людзей, даведайся хто ў іх маці, хто бацька, хто сястра, а хто жонка. Так будзе зручней, хоць можа і не зусім прыстойна. Калі з-за высакароднасці сваёй душы будзеш грэбаваць гэтым, дык на кожным кроку нажывеш сабе ворагаў і атрымаеш славу рэзкага, жорсткага і зласлівага эгаіста. А больш асцярожныя, як анёлы з крыламі, будуць лунаць над

[116] Станіслаў Расалоўскі (1797-1855), закончыў віленскую гімназію і медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта, доктар медыцыны з 1818 г. Нейкі час жыў на Піншчыне, потым у Вільні. Пахаваны на віленскіх бернардынскіх могілках.

Доктар Юльян Цітыюс пісаў: "Сябрамі бацькоў, а больш маці, былі яшчэ два высакародныя і вучоныя паэты: Ігнат Шыдлоўскі і Станіслаў Расалоўскі, абодва былыя студэнты ўніверсітэта, памерлі: першы ў 1846 г. другі ў 1855 г. […] Атмасфера паэзіі тады, з 1810 па 1830 г. і далей, напаўняла Вільню. Шыдлоўскі і Расалоўскі рэпрэзентавалі дзве сучасныя плыні. Шыдлоўскі - халодны крытык, добра ведаў лацінскую і грэцкую мовы і трымаўся старажытных формаў, а ў рэформу Міцкевіча, у так званы рамантызм не верыў. Расалоўскі, гарачы энтузіяст, не крытык і не празаік, меў моцны творчы пачатак і, пачаўшы з перакладаў старых лацінскіх майстроў, закончыў Байранам і Мурам. Уласных твораў пакінуў няшмат.

Расалоўскі быў доктарам медыцыны, некалі адным з лепшых студэнтаў універсітэта і тытул доктара-паэта, нададзены яму грамадскасцю, не зашкодзіў яго медыцынскай практыцы. Калі наша маці ў 1848 г. памяняла кватэру, бедны п. Станіслаў быў вельмі хворы. Папраўіўшыся, прыслаў вялікі торт, да якога быў прыкладзены ліст з вершам:

Доўга ад вас адапхнёны
І людзьмі прыгнабёны.
Пры жыцці затрыманы воляй
Святога наканавання,
Пасля свайго вяртання
Вітаю вас хлебам і соллю.
І падзякаваўшы Богу,
Стаю ля вашага парога.

Расалоўскі і Шыдлоўскі былі таксама і сябрамі Манюшкі, разам з Манюшкам мы іх абодвух і пахавалі. Потым над Віслай спачыў і аўтар "Галькі", а я, самотны, пакінуты старымі сябрамі, усё яшчэ блукаю над Віліяй …". - гл: Віленскія ўспаміны доктара Юльяна Цітыюса … . С. 22, 24-25.

Антоні Адынец пісаў: "Шыдлоўскі і Расалоўскі - былі ў 1820 годзе карыфеямі паэзіі ў Вільні. Іх творы кожны месяц, калі не кожны тыдзень, паказваліся адны за другімі ў "Dzienniku", "Tygodniku" або ў "Wiadomosciach Brukowych". Праўда, рэдактары не плацілі ім за іх, але ўжо прынамсі не лічылі за ласку іх прымаць і друкаваць, як гэта звычайна рабілася адносна іншых прэтэндэнтаў на славу". - гл: Адынец А. Э. Успаміны пра мінулае. Мінск, 2020. С. 100-102. - *Л.Л.*

[117] Юзэфа Ледахоўская з Трускалаўскіх (1780-1847), адна з самых знакамітых драматычных артыстак таго часу. Пакінула сцэну ў 1833 г.

Ігнацы Вяроўскі (1783-1841), нарадзіўся ў Вільні, ва ўзросце 19 гадоў першы раз выйшаў на сцэну ў Менску. Потым граў у віленскім тэатры Кажынскага, меў амплуа першага коміка. Пераехаў у Варшаву, дзе стаў драматычным акцёрам.

[118] Адам Гюнтар, апошні з роду Гюнтараў, якія перасяліліся сюды з Рэйна ў часы Сабескага, бацька Габрыэлі Пузыні, аматар мастацтва.




людзьмі і лічыцца ўвасабленнем дабрыні.

Расалоўскі, не маючы ўласных сродкаў, вучыўся за дзяржаўны кошт на лекарскім факультэце і стаў медыкам. Але не меў да медыцыны ні ахвоты, ні прыроджанага таленту. Гэта дзіўна, бо ён меў шмат іншых здольнасцяў. Але каля ложка хворага траціў галаву і імкнуся кампенсаваць гэтага мужнасцю, таму на мой погляд, у медыцынскай практыцы не варты быў нават беднага цырульніка. Скарбовыя студэнты павінны былі сем гадоў адпрацаваць на дзяржаўнай службе, і яго накіравалі кудысьці далёка ўглыб Расіі, дзе яшчэ не было ніякай медыцыны. Неяк выкараскаўся адтуль як непатрэбны і прыехаў на адпачынак у Вільню. Спярша ўдаваў сябе за хворага, а потым і за мёртвага і ў выніку, усе ж застаўся ў Вільні і нават да сённяшняга дня, як ліс, выкручваецца ад дзяржаўнай службы. Ужо адно гэта сведчыць пра яго спрыт, хітрасць і розум, хоць часам і прыкідваецца ён поўным дурнем. Не кожны меў такі талент, каб застацца ў Вільні, дзе лекараў было больш, чым хворых і дзе яны ад зайздрасці зубамі грызлі адзін другога.

Расалоўскі ведаў лаціну і польскую мовы як Капчынскі[119], меў літаратурны густ і яго схільнасць да паэзіі падтрымлівалася добрай адукацыяй. Аднак паэтам яго лічылі памылкова бо быў толькі добрым вершапісцамі. Але не ведаю, ці мог хто пасля Людвіка Асінскага[120] зраўняцца з ім па здольнасці перакладаць чужыя вершы. Расалоўскі не мог не пісаць вершы, але яны не прыносілі яму хлеба. Аднак, адзін раз усё ж прынеслі, калі ён падмануў усіх нас двухрублёвай падпіскай на свае творы, якія нібы павінны былі друкавацца. Але ўвесь час рабіць так немагчыма, і яму прыходзілася жыць з медыцыны. Таму пусціўся ў горадзе ў розныя хітрыкі і непатрэбнасці і ў выніку сакрэтных інтрыг быў рэкамендаваны ў вёску. З вёскі прывозіў, калі не грошы, дык мяшкі са збожжам і кадушкі з капустай. А ён меў каго карміць! Бо сышоўся з прыгожай дзяўчынай, дачкой вядомага ўсёй Вільні пекара Апіца, і неяк так да яе прыладзіўся, што хутка трэба было яму ісці да шлюбу, а потым і запрашаць на хрысціны! І далей пан Бог памнажаў гэтае яго багацце, бо хрысціны пайшлі чарадой разам з нянькамі і мамкамі.

Дык вось гэты прыціснуты жыццём, нядольны лекар Расалоўскі, лайдак са слабым здароўем, быў абжорам і еў за чатырох ці нават за пяцёх. Як мятла імгненна змятаў паўміскі. Таксама быў закаранелым эгаістам і казаў, што вытрымае ўсё, пакуль недзе можна нешта ўхапіць ці атрымаць смачны абед. Ён добра ведаў, што толькі сваім доўгім языком, сваёй смеласцю, нахабствам, доўгімі размовамі з прыгожымі і ганарлівымі словамі, сваім зласлівым досціпам ён можа імпанаваць нашым вясковым паўпанкам. Заўсёды прамаўляць бясконца, гаварыць так, каб недасведчаныя слухачы бянтэжыліся, не разумелі яго і таму лічылі разумнейшым за сябе, часам смешна жартаваць над самім сабой каб потым зноў бліснуць арыгінальнай думкай - усё гэта стала галоўным прадметам яго намаганняў і яго памкненняў. Натуральна, не мог ён пазбавіцца ад сваёй залежнасці і з намі, хоць і разумеў, што мы яго добра ведаем. Як вялікі і часта дасціпны гаварун, ён быў не толькі прыемны, але нават і жаданы чалавек у нашай кампаніі. Мы хвалілі яго прамовы, і гэта штурхала яго на яшчэ большыя высілкі. Ён паверыў у сябе і нарэшце ўшчэнт разбэсціўся. Нават у дробязях апусціўся да ўзроўню малога хітраца, малога пляткара. Не было такога, з чаго б ён, як іскры з труту, не выціснуў бы сабе прыбытак. Праўда, толькі Бог ведае, як ён змог пракарміў і даць адукацыю сваім вельмі таленавітым, сумленным і непадобным на бацьку дзецям. Але калі стаў такім, як я апісаў яго вышэй, калі набыў пэўную звычку, не мог ужо змяніцца, і тое, што ў маладосці было ці здавалася толькі вясёлым, забаўным, смешным і цярпімым, ператварылася ў махлярскую сістэму і ў сталым узросце зрабіла яго нікчэмным і подлым. Праз шмат гадоў, калі я зноў яго ўбачыў, гэты чалавек стаў аматарам какетлівых жанчын, бессаромным гарадскім плеткаром і хлусам, а таксама нават у большай яшчэ ступені бессаромным абжорам, які хапаўся за кішэні маладых панічоў, сустрэтых ім у першым жа тракціры, і нахабна загадваў падаваць сабе самыя лепшыя і дарагія трункі, а потым прымушаў плаціць за сябе. Таго, хто бессаромна, без запрашэння ўціскаўся ў сяброўскія абеды і сустрэчы, дзе яго бачыць не хацелі і сваёй прысутнасцю атручваў усялякую надзею на прыемны вечар. Ён стаў сапраўдным бічом, сапраўдным трутнем Вільні і цалкам заслужыў агульную пагарду, якая яго акружала і якая не апраўдвала яго убогасці.

Умацоўваючы наша сяброўства, мы з Каралем правялі два гады ў гэтых забавах і гульнях. На другі год прыйшоў час заканчэння ўніверсітэта. Я здаў падрабязныя, строгія іспыты, званыя examen rigorosum[121], потым прайшоў праз так званыя inclusum, калі, замкнёны з усіх бакоў і акружаны строгімі ахоўнікамі, без ніякай дапамогі, без кніг, добра і шырока адказаў на лацінскай мове на тры выцягнутыя пытанні. Я быў прызнаны вартым доктарскай ступені. Напісаў дысертацыю, падаў маім прафесарам так званыя "Тэзісы" - мае высновы, якія я павінен быў абараняць ад апанентаў, і сам, як капуцын у чатырох сценах калегіюма піяраў, замкнуўся на дзень і на ноч, каб рыхтавацца да абароны. Нікуды не выходзіў і не ведаў, што робіцца на свеце.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[119] Ануфры Капчынскі (1735-1817), мовазнавец, напісаў "Граматыку польскай і лацінскай моў для народных школ" (Варшава, 1780 г.) і шэраг іншых мовазнаўчых прац. - *Л. Л,*

[120] Людвік Асінскі (1775-1838), літаратуразнавец, гісторык і тэарэтык літаратуры, перакладчык, паэт, драматург і аратар. Выпускнік школы піяраў. - *Л. Л.*

[121] Rigorosum (ад лац. rigorosus - строгі) - ранейшая назва вуснага доктарскага экзамену. - *Л. Л.*



# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## "Кансерваторыя": Давыдзенка, Семірадскі, Уколаў; індзеяністыка ў абласных цэнтрах: Магілёў

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-52 (105-156) (2024); № 1-17 (157-173) за 2025 г.)*

**МАГІЛЁЎ АДГУКАЕЦЦА НА ІНДЗЕЙСКУЮ ТЭМУ**
**(Праз прызму друку)**

Па выбранай бібліяграфіі "[... у] беларуска-індзейскіх сувязях" можна меркаваць пра тыпы публікацый і тэматыку ў тым ці іншых рэгіёне або населеным пункце Беларусі. Толькі ўстаўце тапонім - і чакайце выніку, які ёсць для дзясяткаў тысяч геаграфічных адзінак.

Мы бачым, што ў магілёўскім выдавецкім прадукце пераважаюць або заўважна вылучацца дапаможнікі для студэнтаў, артыкулы, звычайна выкладчыкаў з ВНУ, у зборніках канферэнцый, але ёсць і публікацыі, зарэгістраваныя намі ў нязначнай колькасці, напрыклад, з мастацкіх і краязнаўчых зборнікаў, з газет, такія як артыкулы пра мясцовасці, публіцыстыка і красворды.

Выдатным укладам у індзейскую тэму ў магілёўскім друку з'яўляецца метадычны дапаможнік А. Агеева для студэнтаў, прысвечаны індзейскім традыцыйным культурам (2008). Гэта штосьці незвычайнае для Беларусі. Таксама выдатны прыклад - энцыклапедычны даведнік моў свету В. Рагаўцова (2009). Пры жыцці гэты ўраджэнец быў легендай для нас, а яго смерць дадала да легенды нямы і змрочны дакор.

Агляд публікацый па індзейскай тэматыцы ў друку Магілёва ўключае адзінкавыя дарэвалюцыйныя (ёсць і на польскай мове) - з прычыны таго, што выданні з гэтай катэгорыі праглядаліся намі мала. Да рэвалюцыі "Могилевские епархиальные ведомости" дапамагалі гандлю кнігамі… Фенімора Купера ("Объявление": "Продолжается подписка на 1898 год": "Природа и люди" ("12 томов сочинений Фенимора Купера"); "Вокруг света": "Завоевание земли" Ж. Верна, Джэк Лондан, Майн Рыд і інш., 1916). Гэтае адроджанае епархіяльнае перыядычнае выданне падтрымала (1998) сучасную барацьбу супраць сект і магічных культаў, якія ў свой час нібыта віталі, як сярод "неграў і індзейцаў", нямецкія акупанты.




***Envelope from a Mogilev Indianist 1988-01-17***



***Envelope from Mogilev State University (Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт) 2014-03-19. У гэтым канверце прыйшлі 3 экз. дапаможніка для студэнтаў "Традыцыйная культура народаў Амерыкі" (Traditional Culture of the Peoples of America, Магілёў, 2008)***

Да нядаўніх нашых знаходак адносіцца артыкул "Первобытные знаки ценности" (1891) у "Могилевских губернских ведомостях", падрыхтаваны як пераказ выніказ даследавання ранніх грашовых эквівалентаў доктарам Робертам Э. К. "Стырнсам" (Стирнс, але англійскае прозвішча Stearns больш правільна перадаваць Стернс, Стэрнс).

**Літ.:** (Магілёў)

*3900 Алексеенко Т. Кроссворд / сост. читатель Т. Алексеенко, г. Могилев // Народная газета. 1992. 12 сент.*

*9538 Аношкін І. Рабінка: апавяданне // Брама: літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў; Мн., 2013. С. 154-161.*

*3904 Бекиш А. Кроссворд / сост. А. Бекиш (г. Могилев) // Советская Белоруссия. 1990. 24 нояб.*

*10256 Бубнаў Ю. М., Пушкін І. А. Паліталогія: курс лекцый. Магілёў, 2006.*

*9306 Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць: зборнік навуковых прац удзельнікаў VIII Міжнароднай*





*нальное природопользование. Охрана природы / под общ. ред. И. Н. Шарухо. Могилев, 2014.*

*2160 Што такое абразанне?: [адказ на пытанне Рамана К., г. Магілёў] // Чырвоная змена. 1992. 23-29 сак.*

**ДАВЫДЗЕНКА Тамара** (Tamara Davydzenka, Davydenko) - у замужжы Самахвалава; нарадзілася ў Пінску, дзе пачынала займацца акадэмічным веславан-нем, затым была звязаная з таварыствам "Дынама" ў Менску.

Займала высокія месцы на розных міжнародных спаборніцтвах. На чэмпіянаце свету ў Індыянапалісе (1994) стала дзявятай у двойках і пятай у васьмёрках, на летніх Алімпійскіх гульнях 1996 г. у Атланце разам з камандай (Алена Мікуліч, Марына Знак, Наталля Волчак, Наталля Стасюк, Валянціна Скрабатун, Наталля Лаўрыненка і рулявая Яраслава Паўловіч) у праграме распашных васьмёрак заняла трэцяе месца, пасля Румыніі і Канады. У 2004 г. (ужо пад прозвішчам Самахвалава) выйграла бронзавы медаль на чэмпіянаце свету ў Баньёлесе (Іспанія) ў распашных чацвёрках.

У 1994 г. у распашной васьмёрцы атрымала перамогу на Гульнях добрай волі ў Санкт-Пецярбургу. У фінансавай і выніковай справаздачы па гульнях паведамлялася і пра прысутнасць на іх індзейскага танцавальнага калектыву:

*"На цырымоніях адкрыцця і закрыцця Гульняў Добрай Волі-94 гледачам бясплатна раздаваліся праграмкі, флажкі нацыянальных сцягоў Расіі і ЗША і з сімволікай Гульняў, паветраныя шарыкі.*

*У цырымоніях прыняў удзел зводны аркестр ЛенВА ў колькасці 400 чалавек, вядучыя калектывы Расіі, зоркі эстрады Л. Доліна, Ю. Ахачынскі, М. Капура, Краснаярскі ансамбль танца Сібіры імя Гадэнкі, калектыў нацыянальнага танца індзейцаў з Канады і многія іншыя. Кампазітарам А. Пахмутавай спецыяльна для цырымоніі адкрыцця Гульняў была напісана песня. Выключнай асаблівасцю свята адкрыцця стала тое, што ўсе эпізоды пастаноўкі былі прадстаўлены гледачам упершыню.*

*Запомніліся гледачам эпізод урачыстага запальвання агню ў алімпійскай чашы стрэлам з пятроўскай марціры, парашутысты са сцягамі Расіі і ЗША. У творчых адносінах цырымоніі адкрыцця і закрыцця сталі несумненным дасягненнем расійскай школы пастаноўкі масавых свят, сінтэзам культуры і спорту з выкарыстаннем апошніх дасягненняў тэхнікі гуку і святла".*

**Літ.:**

*8673 Палешчанкава А. Індзейцы - на Свіслачы? // Раніца. 2003. 14 жн. С. 9. (Летапіс газетных артыкулаў: "[Аб мін. дзіцяча-юнац. спарт. шк. алімп. рэзерву па веславанні]".)*

**СЕМІРАДСКІ Юзаф** (10) - мы выбралі як асноўную форму імя Юзаф, а не Іосіф таму, што навуковец значна больш прывязаны не да Расійскай імперыі, а да Аўстра-Венгрыі і Польшчы, дзе ўжываліся польская і нямецкая формы; праз Google і (старонка захаваная толькі ў web.archive.org) Яндекс пра яго на фразу "Иосиф Семирадский" у красавіку 2025 г. знаходзім па адным выніку як пра рэктара ўніверсітэта, які ў наш час называецца Львівський національний університет імені Івана Франка (Львовский национальный университет имени Ивана Франко).




***Envelope from geographer Anatoly Isachenko (Анатолий Исаченко, Анатоль Ісачанка, Петербург) 1992-04-20***




***Envelope from Tamara Yuzepchuk (Leningrad) 1989-10-23. Конверт от Тамары Юзепчук (Ленинград), бывшей сотрудницы Музея антропологии и этнографіі (Кунсткамера). Kunstkamera (St. Peterburg)***





86 Jako przykład, rzadki zresztą wśród Indian południowoamerykańskich, silnych wpływów kulturalnych plemion obcych wspomnieć mi wypada o plemieniu Parécis, najdalej na południe wysuniętej gałęzi rasy »Nu«, których bogatą kolekcję etnograficzną posiada muzeum w Rio Janerio. Przedmioty te zdają się wskazywać na wpływy peruwiańskie. Widzimy obok przeróżnych ozdób głowy z barwnych piór ptasich, kolców jeżozwierza, płaszczów z piór strusich etc. także plecione kapelusze słomkowe, czarno i żółto centkowane, oraz bardzo delikatnie tkane przepaski z barwionej bawełny o ornamencie geometrycznym z drobnych kwadratów, wreszcie instrument muzyczny, znany jedynie u pasterskich ludów Peruwii i Ekwadoru, flet trzcinowy, zupełnie do greckich fletów »Pana« podobny. Instrumentu tego nie znają ani Karibowie, ani Tupis: pierwsi używają grubych pojedynczych fletów, drudzy długich trąb bambusowych, podobnych do używanych przez huculskich pastuchów.

Szereg przedmiotów, wyrabianych przez plemię Czamakóko z północnego Czako, jakie udało mi się nabyć w Paragwaju, świadczy o przynależności tego plemienia również do rasy »Nu«. Do wyrobów tych użyto jako materiału jedynie włókna roślinnego, piór i płytek szlifowanych ze skorup wielkiego ślimaka lądowego (Bulîmus); bawełny w nich nie ma. Kształt tych przedmiotów jest nieznany u plemion rasy Tupi i Karibów, natomiast wspólny z plemionami »Nu« nad Amazonką. U tychże Indian w użyciu są jeszcze bardzo pierwotne rurki do picia hervy mate, złożone z kości ptasiej, na jednym końcu oplecionej siatką włókien bambusowych, podczas gdy dziś są u dzikich plemion w użyciu przeważnie metalowe, od białych nabyte rurki (bombillas).

2. Typ mongoloidowy. Obok wyżej opisanych plemion o typie eskimosowym zachowały się szczątki innej, jak się zdaje, równie starożytnej rasy, stojącej

***Sladami Indian (1979) - Siemiradzki p. 86***

***Юзаф Семірадскі***

**АБ ІНДЗЕЙЦАХ ПАЎДНЁВАЙ АМЕРЫКІ (10)**

У якасці рэдкага сярод паўднёваамерыканскіх індзейцаў прыкладу моцнага культурнага ўплыву чужаземных плямёнаў я павінен згадаць племя парэсіс [Parecis, парэсі], самую паўднёвую галіну расы "ну", чыя багатая этнаграфічная калекцыя захоўваецца ў музеі ў Рыа-Хамерыа [Rio Jamerio]. Гэтыя аб'екты, здаецца, паказваюць на перуанскі ўплыў. Побач мы бачым розныя галаўныя ўпрыгажэнні з рознакаляровых птушыных пёраў, пяра дзікабраза, плашчы са страусавых пёраў і інш., таксама плеценыя саламяныя капелюшы, украпаваныя [centkowane] чорнымі і жоўтымі колерамі, і вельмі далікатна тканыя павязкі з фарбаванай бавоўны з геаметрычным арнаментам з маленькіх квадратаў, і, нарэшце, музычны інструмент, вядомы толькі пастырскім народам Перу і Эквадора, трысняговая флейта, цалкам падобная да грэчаскіх флейт "Пана". Гэты інструмент невядомы ні карыбам, ні тупі [ani Karibowie, ani Tupis]: першыя выкарыстоўваюць тоўстыя адзінкавыя флейты, другія - доўгія бамбукавыя трубы, падобныя на тыя, якія выкарыстоўвалі гуцульскія пастухі.

Шэраг вырабаў племені чамакока [Czamakoko, chamacocos] з паўночнага Чака, якія мне ўдалося набыць у Парагваі, сведчаць аб прыналежнасці гэтага племені таксама да расы "ну". Адзінымі матэрыяламі, якія выкарыстоўваліся для гэтых вырабаў, былі раслінныя валокны, пёры і пласціны, шліфаваныя з панцыра [szlifowanych ze skorup, ракавіны] вялікага сухапутнага слімака (Bulimus); у іх няма бавоўны. Форма гэтых аб'ектаў невядомая сярод плямёнаў тупі і карыбаў, але характэрная для плямёнаў "ну" Амазоніі. Гэтыя індзейцы ўсё яшчэ выкарыстоўваюць вельмі прымітыўныя саломінкі для піцця гербы матэ [pierwotne rurki do picia hervy mate], зробленыя з птушыных костак, з сеткай з бамбукавых валокнаў, абгорнутай вакол аднаго канца, у той час як сёння дзікія плямёны ў асноўным выкарыстоўваюць металічныя трубы (bombillas), набытыя ў белых.

**Літ.:**

*10703 Косвен М. О. Предисловие // Штейнен К. Среди диких народов Бразилии. М.; Л., 1930. (Steinen; аўтар М. Касвен - ураджэнец Беларусі (Брэст).)*

**УКОЛАЎ Валерый** (Уколов, Valery Ukolau, Ukolov) - "менеджар" Беларускай дзяржаўнай філармоніі, рэжысёр яе канцэртнай залы, таксама вядомы як артдырэктар некамерцыйнага прадзюсарскага цэнтра "Класіка" Беларускага саюза музычных дзеячаў, член праўлення БСМД.

У папярэдняй праграме знаходжання арызонскага



Beatrice Medicine
Department of Anthropology
California State University - Northridge
18111 Nordhoff Street
Northridge, CA 91330

January 28, 1991
Gomel

Dear Dr. Medicine:

I received your address from Dr. V. Tishkov, the head of the American section of the Institute of Ethnography, Moscow, in March, 1988. He is director of the Institute at present. We had an interesting talk. He said I might write to you.

But I hesitated for a long time.

I am not a scientist. I am also not a high school student. However, I am interested in anthropology and research in inter-ethnic relations. My main interests are Byelorussian - American Indian contacts, historic and present, and the Southwest, especially the Apache.

I wrote to the American Indian Historical Society, San Francisco, asking for information aid (June, 1990). Unfortunately, I haven't received any answer.

Please help us to contact Native American historians and anthropologists.

Thank you very much.

Please excuse me for the language.

Sincerely yours,

(Mr.) Ales Simakou
(acting executive secretary)
Byelorussian - American Indian Society

Gomel 246049,
BSSR, USSR

***Letter to Beatrice Medicine (Lakota), Department of Anthropology, California State University - Northridge (Northridge, California) 1991-01-28***







ЧУЖАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА

Н. СКОТ МОМАДЭЙ

Першы амерыканец глядзіць на сваю зямлю

*Першы Чалавек*
*глядзіць:*
*вось*
*зямля*
*зашумела*
*лістотай,*
*неба*
*лагодна*
*заззяла.*
*Пылок*
*лунае*
*па ветры,*
*нізкім,*
*разлеглым у гарах.*

**Н. Скот Момадэй** (нар. у 1934) — індзеец племені каёва, якое жыве ў Арызоне. Вырас у рэзервацыі, вучыўся і выкладаў у Стэнфардскім універсітэце, потым стаў прафесарам універсітэта Арызоны. Аўтар рамана «Дом світальны» («House Made of Dawn», 1968), вершаваных зборнікаў, а таксама збору ўспамінаў уласных і племянных, у тым ліку «Шлях да Дажджлівай гары» («The Way to Rainy Mountain», 1969). Эсэ "Першы амерыканец глядзіць на сваю зямлю» было апублікаванае ў 1976 годзе.

ARCHE 10 2014 351

***N. Scott Momaday, A First American Views His Land (in Belarusian, translated from the English by Eva Vezhnavets. Літаратурна-музычныя пальцы Макса Шчура (красавік 2025 г.). Photo by Max Scur***

наваха У. Язі ў Менску ў кастрычніку 1996 г. сярод "Possible Meetings" быў і "Meeting with the Manager of the Philarmonic Society Mr. Ukolov".

***Міхаіл Іванчанка***

**ІНДЗЕЕЦ НАВАХА Ў МІНСКУ (5)**

Выступленне ў Доме Дружбы не было адзіным. М-р Язі таксама выступіў перад студэнтамі Мінскай кансерваторыі прыкладна з той жа праграмай. У кансерваторыі ўсе танцавалі сапраўдны танец Круга. Мусіць, яго можна ўспрымаць як наш "'карагод", але, па-мойму, акрамя назвы ў нас ад яго нічога не засталося. Паказваюць, вядома, па тэлевізары, але гэта не ў лік. Гэта ўсяроўна, што ў музеі косткі мамонта: косткі ёсць, а мамантаў няма - вымерлі даўным-даўно. У нашым сучасным жыцці нічому такому няма месца, таму бессэнсоўна шукаць аналагі такім традыцыям, як паў-ваў, і немагчыма старонняму чалавеку растлумачыць, чым наша паў-ваў адрозніваецца ад яго турызму. У рэштках [остатках] нашай уласнай традыцыйнай культуры згубленыя традыцыі і рытуалы, якія дапамагаюць здабыць [обрести] сувязь з мінулым, са сваёй Маці-Зямлёй. Таму я не бачу нічога дрэннага ў тым, каб павучыцца гэтаму ў народаў, якія яшчэ нешта памятаюць і ўмеюць. І гэта адказ на пытанне, чаму мы займаемся "чужой" культурай, калі ў нас, нібыта, ёсць свая. Гэта можа быць таксама адказам тым індзейцам, якія лічаць, што мы крадзем іх культуру. Асабіста я ў іх нічога не краў [не воровал]. Арліныя пёры ў мяне ад нашых арлоў, танцую я на сваёй зямлі, а тым рытуалам, якія мы спрабавалі праводзіць, навучыўся ў сапраўдных індзейцаў, якія прыязджалі да нас у госці: Скай Хок (чарнаногі), Скот Момадэй (каёва) [Scott Momaday (Kiowa), 1934-2024], Мерлі Тэндзі (кры), Бі Мэдысін (лакота) [дакладней, Беа - Beatrice "Bea" Medicine (Lakota)]... Яшчэ быў прыезд групы Дэніса Бэнкса [Dennis Banks] са "Свяшчэнным Бегам" [Sacred Run], прыезд 300 танцораў з усіх Злучаных Штатаў на Гульні Добрай Волі...

**Літ.:**

*13084 Момадэй Н. С. Першы амерыканец гля-дзіць на сваю зямлю / пер. з анг. Е. Вежнавец // Arche. 2014. № 10. С. 351-359. ("З ангельскай мовы (N. Scott Momaday, A First American Views His Land [1976]) пераклала Ева Вежнавец"); на жаль, у даведцы пра пісьменніка яго племя каёва памылкова перанесенае ў Арызону з Аклахомы "разам з ім", але важная частка жыцця Момадэя сапраўды звязаная з гэтым штатам - як мясцовы рэзідэнт выкладаў у Арызонскім універсітэце ў Тусане з 1981 па 2005 г.)*

*12102 Гуров И. Священный бег в России: о Деннисе Бэнксе и не выкуренных трубках // Бюллетень: антропология, меньшинства, мультикультурализм. Краснодар, 2000. С. 67-70.*

*12103 Гуров И. (Черный Медведь). Священный Бег в России (1990): о Деннисе Бэнксе и не выкуренных трубках // Первые американцы. 2001. № 9 (дек.). С. 121-124.*

*1870 Репин А. Дэннис Бэнкс в наручниках: репрессии против борцов за права американских индейцев // Труд. 1984. 21 сент.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou (e-mail: baicri@tut.by),***
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Індзейцы, индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America у Belarus; Belarusians Meet Indians. Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 147].***



# Калектыў, які з першых нот трапляе ў сэрца!

27 красавіка на сцэне Палаца культуры горада Ліды ззяла "Талака" - Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь, народны ансамбль песні і танца філіяла "Лідскія электрычныя сеткі" РУП "Гроднаэнерга".













30-гадовы юбілей адзначылі ў коле шматлікіх прыхільнікаў!

*ТК "Культура Лідчыны".*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Адрас рэдакцыі:*
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 28.04.2025 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*